 


# Ніва

**БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК**

№ 19 (1211) ГОД XXIV БЕЛАСТОК 13 МАЯ 1979 г. ЦАНА 1 зл.





21 красавіка 1979 г. праходзіў юбілейны **X з'езд Таварыства польска-савецкай дружбы.** А ў мяне перад вачыма ўсё яшчэ запоўненая дэлегатамі і гасцямі ўрачыста дэкараваная Зала кангрэсаў Палаца культуры і навукі ў Варшаве. Прадстаўнікі некалькіх пакаленняў і ўсіх рэгіёнаў краіны.

І ў доўгіх апладысментах, якімі вітаюць яны прадстаўнікоў Цэнтральнага камітэта ПАРП, Урада Дзяржавы, і ва ўрачыстым гучанні дзяржаўнага гімна, і ў румянцы, што расцвіў ад хвалявання на ўсіх шчоках, непадзельна пануе толькі адно пачуццё — прыязнь. Прыязнь, якая засноўваецца не толькі на мностве гістарычных, палітычных, гаспадарчых, навуковых, культурных узаемасувязей ПНР і СССР, але перш за ўсё на еднасці сэрц.

Калі пасля адкрыцця з'езду старшынёй ГП ТППР членам Палітычнага бюро ЦК ПАРП **Янам Шыдлякам,** зачытваецца Ліст I Сакратара ЦК ПАРП **Эдварда Герка** да ўдзельнікаў з'езду, кожнае яго слова засяроджвае ўвагу, а выказванне: „Створаныя грамадскай працай, вялікай колькасцю актывістаў ТППР каштоўнасці з'яўляюцца неад'емнай часткай гістарычных дасягненняў Народнай Польшчы" ўспрымаецца як вышэйшае адабрэнне і ацэнка дзейнасці кожнага прысутнага ў зале.

У справаздачным дакладзе старшыні Я. Шыдляка знаходзяць адлюстраванне толькі найважнейшыя моманты з працы і факты з дасягненняў ТППР за час паміж з'ездамі ды ўказанні на галоўныя напрамкі далейшай дзейнасці. І якраз гэтае яго сцвярджэнне: „Для нас, палякаў, саюз гэты з'яўляецца адначасова асноўным фактарам у выратаванні і вызваленні нашага народа, як і аграмаднай дапамогай у працэсе рэвалюцыйных пераўтварэнняў у нашым грамадстве і ў сацыялістычным будаўніцтве, неабходнай падставай грамадска-гаспадарчых дасягненняў, гарантыяй незалежнасці, бяспекі, мірнай працы, умовай нашага месца і ролі на свеце", — найбольш ярка падкрэслівае ролю польска-савецкай дружбы.

Яшчэ і цяпер маю ў вушах мяккі і цёплы голас старшыні дэлегацыі Таварыства савецка-польскай дружбы **Аляксея Шыцікава.** Гэта голас многіх мільёнаў савецкіх сардэчных і шчырых прыяцеляў польскага народа. Таварыства савецка-польскай дружбы цяпер складаецца з 188 рэспубліканскіх, абласных, гарадскіх і раённых аддзяленняў, са звыш 5 тысяч калектыўных членаў, — расказвае ён і называе самых актыўных, сярод якіх я чую пра Мінскі трактарны завод, Гродзенскі тонкасуконны камбінат, пра іншыя прадпрыемствы і вобласці Савецкай Беларусі.

Вялікае ўражанне на ўсіх робіць увaход у залу некалькіх дзесяткаў варшаўскіх дзяўчат і юнакоў — рабочых, медсясцёр, салдат, студэнтаў, вучняў — і даклад іх прадстаўніка з'езду пра пачыны і дзеянні сталічнай моладзі для дабра справы польска-савецкай дружбы. І наш касманаўт — стройны і элегантны **Міраслаў Гермашэўскі.** Гром апладысментаў перад і пасля яго выступлення, а ў перапынках працы з'езду — бясконцая чарга за аўтографамі. Яго падобны да ракеты ў палёце подпіс трапляе на ўсё: мандаты дэлегатаў, запрашэнні гасцей, праграмы з'езду, паштоўкі, кнігі. А перад усімі красуецца невялічкі каляровы вымпел-сцяжок, што разам з беларусам **Пятром Клімуком** і палякам **Міраславам Гермашэўскім** зрабіў касмічнае падарожжа і цяпер вось стаіць на стале прэзідыума, ахвяраваны з'езду касманаўтамі. Змястоўныя выступленні дэлегатаў і гасцей у дыскусіі. Сярод іх і старэнькага за-

(Працяг на стар. 2)



**Па роднай зямлі.** Разлілася Нарва шырока...

Фота В. Рудчыка.

## У летняй рэзідэнцыі

З двума архітэктурнымі помнікамі позняга барока на Беласточчыне — раскошнай колішняй сядзібай Браніцкіх у Беластоку і іхняй жа летняй рэзідэнцыяй у Харошчы — сталася так, як у той казцы пра дзве сястры-красуні. Старэйшую, упартую, выдалі за вялікі пасаг па-суседску, а малодшую, паслухмяную, без пасагу ў далёкую-далеч выпхнулі. У старэйшай што ні дзень, то і гасціна, а ў малодшай цэлымі гадамі ніхто і вачэй не паказвае. Так і з абодвума палацамі: гэты ў Беластоку незлічонымі чарэдамі наведвальнікаў абгледжаны і абтаптаны да дзірак у мурах і калдобін на мрамарных падлогах, а вось у той, у Харошчы, гады ў рады які-небудзь цікаўны паявіцца. Што ж, у выніку розных гаспадарчых перыпетый аказаўся ён на загуменні харашчанскай бальніцы для нервова і псіхічна хворых, і пранікнуць у яго можна праз пе пільна сцеражоную высокую жалезную браму і аграмадны панадворак са шпацыруючымі хворымі!..

З розных дакументаў вядома, што пачатак гэтым своеасаблівым Лазенкам на Беласточчыне даў палац Браніцкіх, пабудова якога працягвалася з 1725 па 1730 г.г. Паўстаў ён не на пустым месцы, але побач са старажытнай мясцовасцю з першапачатковай назвай Хварошча. Яе ў 1437 г. князь літоўскі Міхайлушка Зыгмунтавіч ахвяраваў войту тыкацінскаму Пятру з Гумава. Потым, перайшоўшы ва ўладанне магутных заблудаўскіх Хадкевічаў, стараннямі ваяводы навагрудскага Аляксандра

(Працяг на стар. 4)



*Летняя рэзідэнцыя Браніцкіх у Харошчы. Від з боку цэнтральнага паркавага канала.*

## З рэпарцёрскіх запісак

## Ад заразы і паветра...

Калі з Бельска ехаць у Нарву, на ўскраіне горада ад галоўнай вуліцы адыходзіць вуліца **Кавальская,** забудаваная багатымі асабнякамі, у якіх наўрад ці знойдзецца хаця б адзін праўдзівы каваль.

Але справа не ў назве і не яна прымусіла мяне зацікавіцца вуліцай Кавальскай у Бельску.

*

На рагу гэтай вуліцы стаіць высокі, драўляны крыж. У вёсцы гэта звычайная рэч. Ад нараджэння прывыклі мы бачыць такія крыжы ў нашых вёсках. Напрыклад, у маёй роднай вёсцы, у Вульцы Нурэцкай, ёсць іх аж тры: у пачатку, у канцы і пасярэдзіне вёскі. Напярэдадні вялікіх гадавых свят прыходзяць сюды дзяўчаты і старэйшыя цёткі, каб навесці парадак, пасадзіць свежыя кветкі, высыпаць жоўтым пясочкам, змяніць брудныя фартушкі.

Гэтыя фартушкі... яны невялічкія, затое багата і абавязкова ўласнаручна вышытыя. Іх вешалі на крыж, каб пазбыцца нейкай хваробы, каб адкупіцца ад граху. А заадно была гэта своеасаблівая выстаўка майстэрства вясковых прыгажунь.

*„Пaглядзіце, людзі, як я ўмею прыгожа вышываць!"*

Асабліва важную ролю іграюць у нас вясковыя крыжы ў абрадах пахавання памершага чалавека. У адкрытай труне нясуць (абавязкова нясуць!) нябожчыка праз цэлую вёску аж да крыжа. Праводзяць яго ўсе жыхары вёскі. Калі жалобны карагод набліжаецца да нейкай хаты, усе, хто толькі ёсць у хаце, далучаюцца да праводзячых і яны разам ідуць да крыжа. І ніхто ад гэтага маральнага абавязку не выкручваецца недахопам часу ці іншымі „вельмі важнымі" прычынамі. Нават пасвараныя сем'і праводзяць у апошнюю дарогу аднавяскоўца.

Пад крыжам над адкрытай труной

(Працяг на стар. 4)

 

(Працяг са стар 1)




служанага заснавальніка першых гурткоў ТППР у ваколіцах Жэшова; і настаўніцы з вясковай школкі недзе з Пільскага ваяводства, славы польскай сцэны **Тадэуша Ламніцкага** і трапечучай ад хвалявання студэнткі Беластоцкай медыцынскай акадэміі **Барбары Кучэўскай.** Яна расказвае найбольш аб супрацоўніцтве беластоцкага студэнцкага асяроддзя з савецкімі сябрамі з Мінска, Гродна, Каўнаса, Баку, Тбілісі, аб цікавых намерах дзейнасці беластоцкіх студэнцкіх гурткоў ТППР у будучыні. Дыскусія — крыніца ўказанняў для дзейнасці пасля з'езду. Будуючая, заахвочваючая і мабілізуючая яна ў гэтай зале!

Прыняццё старанна апрацаванай і прадуманай праграмы дзеяння ТППР, „якая нацэлена на далейшае ўмацаванне грамадскага рангу ТППР, і павелічэнне яе ідэйна-выхаваўчага ўздзеяння на грамадства", — падкрэсліваецца ў яе канцы.

Мужчынскія, па-сяброўску моцныя абдымкі **А. Шыцікава** і новаабранага Старшыні Галоўнага праўлення ТППР **Я. Шыдляка** перад заканчэннем працы з'езду найлепш выяўляюць яго змест і заахвочваюць усіх да ажыццяўлення наштодзень закліку, які натхняў яго ўдзельнікаў са сцен Залы кангрэсаў: „Няхай жыве і расцвітае дружба і супрацоўніцтва народаў Польшчы і Савецкага Саюза ў імя міру і сацыялізму!"

**М. Гайдук**

### *У ГЭТЫМ ТЫДНІ*

**35 гадоў назад**

18.5.1944 салдаты 2 Польскага корпуса ўзялі Монтэ-Касіна. Корпус страціў 860 чал. забітымі, 2822 параненымі і 101 загінуўшымі без вестак.

**30 гадоў назад**

13.5.1949 было створана Таварыства сябраў дзяцей (ТПД).

* * * * * * * * * * 

*15.5.1909 пецярбургская „Ніва", паведамляючы аб абмеркаванні ў дзяржаўнай думе бюджэта міністэрства народнай асветы, пісала: „Шэраг аратараў указваў на тое, што дзякуючы апецы мін-ства нар. асв. насельніцтва акраін усё больш агортвае невуцтва. Гр. Бабрынскі абвінавачваў нашу сярэднюю школу ў тым, што яна ніякіх ведаў не дае, а дэп. Белавусаў назваў нашу школу „папраўчымі арыштанцкімі аддзяленнямі для малалетніх дзяцей".*

**Niwa**

**BIAŁORUSKI TYGODNIK SPOŁECZNO-KULTURALNY**

**ODZNACZONY ZŁOTĄ ODZNAKĄ „ZASŁUŻONY BIAŁOSTOCCZYŹNIE"**
**Organ Zarządu Głównego Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego**

* * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * *

**ADRES REDAKCJI**
**Niwa**
**ul. Wesołowskiego 1**
**15-950 Białystok, skr. poczt. 149**
**tel. 2-32-41**

* * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * *

Wydawca:
RSW „Prasa-Książka-Ruch", Przedsiębiorstwo Wydawniczo-Kolportażowe w Białymstoku.
Prenumeratę na kraj przyjmują Oddziały RSW „Prasa-Książka-Ruch" oraz urzędy pocztowe i doręczyciele. Cena prenumeraty rocznej **52 zł. Prenumeratę ze zleceniem wysyłki** za granicę, która jest o 50% drozsza od prenumeraty krajowej, przyjmuje RSW „Prasa-Książka-Ruch", Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa, konto PKO nr 1531-71.
Indeks 36911/36671
B.Z.Graf. Zam. 942. Nakład 7600 egz. S-2



**ДОБРЫ ДЗЕНЬ, БЕЛАРУСЬ!**

# З'ЯДНАНЫЯ КРОЎЮ

Сустрэў я іх у Леніна: **Кісялёў Дзмітры Аляксандравіч** і яго жонка **Ірына Яўгеньеўна** з Адэсы, **Альштуль Юрый Віктаравіч** з Масквы і **Бурштэйн Леў Давідавіч** з Кіева. Сядзелі за адным сталом у рэстаране **„Дружба"** і з першага позірку відаць ужо было, што гэта задушэўныя сябры.

Што іх прывяло ў гэты пасёлак, праслаўлены боем I польскай дывізіі імя Тадэуша Касцюшкі?

Дзмітры Кісялёў і Ірына Яўгеньеўна — знаёмы яшчэ са школьнай парты. Разам закончылі медыцынскі інстытут і разам пайшлі на вайну. У саставе 435-га медыцынска-санітарнага батальёна, які абслугоўваў 344 дывізію, шляхам заўзятых баёў абое яны дайшлі ў раён Леніна. Дзмітры Аляксандравіч, тады капітан медыцынскай службы, быў хірургам, а Ірына Яўгеньеўна камандавала прыёмна-сарціровачным медыцынскім узводам.

— Ад самага пачатку бою 12 кастрычніка 1943 года, — успамінае яна, — мы адчулі яго заўзятасць. І не таму што варожыя самалёты безупынку цэлымі хмарамі віселі недзе ў раёне вёскі Майсеева і Трыгубава, а грукат так патрасаў паветрам, што чалавек не чуў уласнага голасу. Перш за ўсё самым лепшым тэрмометрам змагання на лініі фронту быў для нас усё нарастаючы паток параненых байцоў і афіцэраў. Прымалі мы таксама і польскіх салдат. Многа іх было, а мы іх ратавалі, як толькі маглі. Здаралася, што нашы сёстры, для прыкладу, **Тамара Быстрова,** або **Марыя Пятрухіна,** аддавалі ім сваю кроў, бо яна неадкладна была патрэбная для выратавання жыцця. **І мне асабіста таксама тады давялося простым пераліваннем крыві з жылы ў жылу выратаваць жыццё аднаму польскаму салдату.** Вось як добра было б знайсці яго, даведацца ці жыве...

— Хацелі б мы таксама ўстанавіць цесныя кантакты з іншымі польскімі воінамі, якія ў час гэтых памятных гістарычных падзей прайшлі праз наш санбат, якіх мы вярнулі да жыцця, да сем'яў і Айчыны, — гаворыць доктар Дзмітрый Аляксандравіч.

Тут адазваўся Леў Бурштэйн, які пад Леніна быў памочнікам начальніка штаба дывізійнай артылерыі 344 стралковай Раслаўльскай Чырвонасцяжнай Дывізіі.

— Каб не залатыя рукі выдатнага хірурга ў асобе Дзмітрыя Аляксандравіча, — гаварыў ён, — я назаўсёды астаўся б на гэтай зямлі пад Леніна...

— Сапраўды, давялося мне складаць і сшываць таварыша Бурштэйна амаль з кускоў — успамінае доктар. — Пасля нашы дарогі разыйшліся, і 30 гадоў мы не бачыліся. А хацелася сустрэцца. Вось з Юрыем Віктаравічам сустракаемся мы ўжо двойчы тут, у Леніна.

— Аб Леніна, — гаварыў Бурштэйн, — я памятаю не толькі таму, што тут я другі раз нарадзіўся на свет, але і таму, што тут сустрэў я выдатных людзей і сардэчных сяброў ды сапраўдных герояў. Памятаю сустрэчы з польскімі афіцэрамі, з якімі даводзілася мне ўдакладняць план артылерыйскай падрыхтоўкі атакі касцюшкоўцаў. Цікава, што цяпер з імі?...

Прыйшла чарга на ўспаміны Юрыя Альтшуля, які пад Леніна камандаваў знішчальнай супрацьтанкавай артылерыйскай батарэяй.

— А ведаеце што, раскажу я вам, як салдаты маёй батарэі завялі знаёмства з Польскім Войскам. Хай журналіст з Польшчы аб гэтым таксама паслухае.

Вядома, — пачаў ён — мы аб гэтым войску нічога не ведалі, бо нам толькі гаварылі, што ў нас будзе вельмі моцны правы сусед. *„Прыжывайцеся да свайго правага суседа,* — раілі нам у штабе, — *дык у людзі выйдзеце!"* Памятаю, што тады снаваўся тут па гэтай даліне пякельна густы туман, дык мы не бачылі гэтага свайго правага суседа. Найперш напаролася на яго **Лёля Саснена** — наша медсястра, лейтэнант медыцынскай службы. Вядома, як баба, цікавілася ўсім, ды лезла туды, дзе яе не просяць. І раптам бачыць: нейкія палаткі, незнаёмая форма, чужая мова. Ад жаху аж носам у мокрую траву яна зарылася і паўзком, як рак, выбралася з небяспечнай зоны. Прыбегла да нас ледзь жывая. *„Хлопцы, — крычыць, — вораг за намі. Многа іх там... Яны нас тут зараз..."* Мае хлопцы мігам прывялі сябе ў баявую гатоўнасць, я паслаў разведчыкаў... І закончылася ўсё гэта, вядома, ...супольнай чаркай з польскімі сябрамі па зброі...

Цяпер **Ю. В. Альтуль** з'яўляецца дацэнтам кафедры юрыдычнага інстытута ў Маскве, **Л. Д. Бурштэйн** — ужо пенсіянер, 30 гадоў працаваў ён у органах дзяржаўнай бяспекі на Украіне, жыве ў Кіеве. **Д. А. Кісялёў** разам з **жонкай,** абое яшчэ надзвычай бадзёрыя і жыццерадасныя людзі (Дзмітрый Аляксандравіч, для прыкладу, кожны дзень, нават зімой, купаецца ў моры), нясуць медыцынскую дапамогу жыхарам Адэсы.



*— Мы сапраўды з'яднаны кроўю, — кажа Ірына Яўгеньеўна.*

А лёс іх разам звёў пад Леніна, дзе і наша гісторыя пакінула свае сляды.

— Мы сапраўды з'яднаныя кроўю, — кажа Ірына Яўгеньеўна і словы яе маюць тут звычайны, просты, літаральны, людскі сэнс, пазбаўлены штучнасці і пафасу.

На жаль, на гэты раз не ўдалося ім сустрэць ў Леніна нікога з тых польскіх ветэранаў, якім вярталі яны здароўе і сілу. Можа тады праз год... а можа хтосьці ім у гэтым дапаможа?

**Віктар Рудчык**
Фота аўтара




**10 год у салдацкім мундзіры ● Ваські ● Калі вясна бушуе ● Хаўтурны смех ● Дарогу талентам! — патрабуе Піліп Саскі ● Ніна Мушынская ўспамінае Сопат ● Дзядзька Максім разважае аб родных карэннях ● Весткі з Беластока, Шудзялава, Нараўкі, Бельска, Крынак, Ляўкова, Гайнаўкі, Чаромхі, Нарвы ● Як дзяўчына папала ў пастку ● На якой мове чытаў і пісаў Чынгіс-хан ● Песня „Mary Ann"**




**Sobota 12 V** — 6.00 TTR. Mat. 6.30 Biol. 9.00 Dla kl. VIII Nauka o czł. 12.25 TTR. Uprawa roślin. 13.00 Hod. zwierz. 13.35 Pr. dnia. 13.40 Radzimy rolnikom. 13.50 Magazyn lotniczy. 14.20 Obiektyw. 14.40 Dziennik. 14.50 Orbita. 15.20 Piosenki Dunajewskiego. 16.10 Wyścig pokoju. 17.05 Latarnia czarnoksięska. — 17.25 Wspólny pokój — dramat społ.-obycz. pol. 19.00 Przygody Bolka i Lolka. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.15 Klaudy w Paryżu — ser. franc. 21.20 Studio Festiwalu Twórczości Telewizyjnej Olsztyn 79. 21.35 Dziennik. 21.50 Mistrzostwa Europy w boksie.

**Niedziela 13 V** — 6.45 TTR. Upr. roślin. 7.15 Hod. zwierz. 7.45 Now. w domu i zagr. 8.10 Emerytury dla rolników. 8.20 Sport dla wszystkich. 8.55 Pr. dnia. 9.00 Teleranek TDC. 10.20 Antena. 10.45 Pokolenie — film woj. pol. 12.15 Dziennik. 12.30 Rolnicze rozmowy. 13.00 Piórkiem i węglem. 13.25 Tylko w niedzielę. — 16.10 Wyścig Pokoju. 19.00 Wieczorynka. 19.50 Dziennik. 20.15 Doktor Murek — ser. TP.

**Poniedziałek 14 V** — 12.45 TTR. Hod. zwierz. 13.25 Upr. roślin. 14.55 Pr. dnia. 15.00 NURT — mat. 15.30 Obiektyw. 15.50 Dziennik. 16.00 Zwierzyniec. 16.30 Wyścig Pokoju. 17.10 Dzień dobry w kręgu rodziny. 17.30 Kanał — woj. film pol. 19.00 Wodnik Szuwarek. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Teatr TV. I. Druce: Największa świętość. 22.40 Studio Fest. Twórcz. Tel. Olsztyn 79. 22.55 Dziennik. 23.10 Raport w sprawie dzieci niczyich. 23.35 Wyścig Pokoju.

**Wtorek 15 V** — 6.00 TTR. Hod. zwierz. 6.30 Upr. roślin. 9.00 Dla kl. IV Geogr. 11.05 Dla kl. III lic. J. pol. 13.25 TTR. Mat. 14.00 Mech. rol. 15.25 Pr. dnia. 15.30 Klub Seniora. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Dzień dobry w kręgu rodziny. 17.00 Studio Mł. 17.30 Stawka — teletur. 18.00 Sonda. 18.25 Viki syn wikingów — odc. 1 anim ser. histor. RFN. 18.50 Radzimy rolnikom. 19.00 Świnka skarbonka. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Ja Klaudiusz — odc. VI ser. ang. 21.30 Świadkowie. 21.50 Studio Fest. Twórcz. Tel. Olsztyn 79. 22.05 Camerata. 22.30 Dziennik. 22.45 Kartki z 35-lecia.

**Sroda 16 V** — 6.00 TTR. Mat. 6.30 Mech. rol. 8.10 Dla kl. VIII Chem. 9.00 Dla kl. VI Fiz. 10.00 Dla kl. VII Fiz. 11.05 Dla kl. VIII Fiz. 12.00 Dla kl. VII—VIII Wych. muz. 12.45 TTR. Fiz. 13.25 Chem. 14.55 Pr. dnia. 15.00 NURT — naucz. pocz. 15.30 Obiektyw. 15.50 Dziennik. 16.00 Entliczek-słowniczek. 16.25 Dom i my. 16.40 Wyścig Pokoju. 17.30 Los. Małego Lot. 17.40 Dzień dobry w kręgu rodziny. 18.05 Wojsk. pr. hist. 18.35 Śródziemnomorskie przygody — ser. przyr. wł. 19.00 Jak Rumcajs z Cypiskiem wystrzelili rakietę. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Obok — dramat obycz. TP. 21.30 Studio Fest. Twórcz. Tel. Olsztyn 79. 21.45 Wyścig Pokoju. 22.45 Dziennik. 23.00 Szuflada.

**Czwartek 17 V** — 6.00 TTR. Fiz. 6.30 Chem. 9.00 Dla kl. VI Hist. 10.00 Dla kl. II lic. J. pol. 11.05 Dla kl. VIII i I lic. Przysp. obr. 13.25 TTR. Fiz. 14.00 Mech. rol. 14.55 Pr. dnia. 15.00 Decyzje piętnastolat. 15.30 Obiektyw. 15.50 Dziennik. 16.00 Czwartek TDC. 16.40 Dzień dobry w kręgu rodziny. **17.05** Skarbiec. 17.30 Wyścig Pokoju. 18.20 Rep. wojsk. 18.50 Radzimy rolnikom. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Banaczek — odc. ameryk. ser. sens. 22.05 Studio Fest. Twórcz. Tel. Olsztyn 79. 22.30 Pegaz. 22.55 Dziennik. 23.20 Wyścig Pokoju.

**Piątek 18 V** — 6.00 TTR. Fiz. 6.30 Mech. rol. 8.10 Dla kl. VII Geogr. 9.00 Dla kl. III Piękna nasza Polska cała. 12.45 TTR. J. pol. 13.25 Biol. 15.15 Red. szk. zap. 15.25 Pr. dnia. 15.30 NURT — psych. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Piątek z Pankracym. 16.55 Dzień dobry w kręgu rodziny. 17.20 Wyścig Pokoju. 18.05 Z życia wzięte — odc. ser. CSRS. 19.00 Kocie figle. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Koncert galowy Studia Gama. 21.50 Tajemnice głębin. 22.20 X Y Z cz. I. 22.50 Dziennik. 23.05 Wyścig Pokoju. 23.15 X Y Z cz. II.




**Piątek 11 V** — 9.00 Film fab. 10.00 Koncert. 16.35 Koncert. 18.30 Film fab. 20.35 Mistrz. Europy w boksie.

**Sobota 12 V** — 13.45 Film fab. dla dzieci. 15.25 Nie do wiary. 16.25 Film anim. 16.35 Film fab. 17.40 Mistrz. Europy w gimnastyce. 18.35 Spektakl. 20.35 Mistrz. Europy w boksie.

**Niedziela 13 V** — 10.00 Film anim. 12.30 Spektakl. 15.20 Śpiewa Leszczenko. 15.40 Klub film. 16.40 Film anim. 17.30 Panorama międzynar. 18.15 Spektakl. 20.35 Koncert.




**Беларуская радыёперадача, субота 12.05 — 12.25 (UKF)**




**Białowieża** Piknik pod wiszącą skałą — austr. 15—16. Gra o jabłko — czes. 17—18. Pejzaż horyzontalny — pol. 19—20.
**Bielsk Podl.** Przez góry skaliste — USA 14—15. Roman i Magda — pol. 16—17. Ostatni pociąg z Gun Hill — USA 18—19. Zabity na śmierć — USA 20.
**Czyże** Nie wychylać się — jug. Znaki Zodiaku — pol. 16—20.
**Gródek** Narodziny gwiazdy — 19—20.
**Hajnówka** Azyl — pol. 13—14. Mandingo — wł.-USA 15—16. Długi weekend — hiszp. 17—18. Próba ognia i wody — pol. 19—20.
**Michałowo** Wezwij mnie w świetlistą dal — radz. 12—13. Szał — ang. 15—16. Jadzia — pol. 17—18. Dziewięć miesięcy — węg. 19—20.
**Milejczyce** Płomienie — pol. 13. Porwanie — fr. 16. Antyki — pol. 19—20.
**Narew** Piknik pod wiszącą skałą — austr. Dzień mej miłości — czes. 16—20.
**Narewka** Charle Brown i jego kompania — USA. Długi weekend — hiszp. 16—20.
**Rajsk** Hallo Szpicbródka — pol. Wyspa skarbów — fr.-wł. 16—20.




# НАШАНІЎСКАЯ ПАРА

**ЯКУБ КОЛАС — ЧАСТКА XXXIII**

Якуб Колас, пішучы „Новую зямлю“, даказаў, што ў літаратурным творы могуць смела сумяшчацца пейзажнае багацце краіны і яе сацыяльнае ўбоства. Адзін з першых крытыкаў паэмы Язэп Лёсік быў праў, калі ўжо ў 1922 годзе напісаў: „Новая зямля“ гэта беларуская „Іліяда“. У „Новай зямлі“, як у люстры, прыгожа адбіваецца сялянскае жыццё ўсяе многапакутнае Беларусі, а хараство, багацце і разнастайнасць нашае айчыны выступае ў паэме перад усім культурным светам першы раз і прымушае кожнага сказаць, што Беларусь „красавіца-нявеста“.

Гэта значыць, што ў паэме выявілася якраз тое, чаго патрабаваў Верашчака ад беларускіх пісьменнікаў.

Колас дасканала паказаў усю спецыфіку беларускай нацыянальнай душы і бадай што на першы план высунуў „уладарства зямлі“. Гэтую рысу ў беларусаў падкрэслівалі многія даследчыкі: гісторыкі, сацыёлагі, крытыкі. „Новая зямля“ можа быць паэтычнай ілюстрацыяй да характарыстыкі беларусаў у Wielkiej Encyklopedii Powszechnej з 1892 года:

„Jest to lud dobrotliwy, gościnny, dość pracowity, pobożny, wesoły, cierpliwy, nie mściwy, namiętnie przywiązany do rolnictwa i wszystkiego co ma łączność z gospodarstwem. Trudni się pszczelarstwem, przemysłem domowym, rybołówstwem, myśliwstwem, strzeże zawsze domowej zagrody a kilkumilowa odległość stanowi przestrzeń, którą niechętnie przekracza i wyjątkowo tylko udaje się na flisacze zarobki na spławach.

Ujemne cechy Białorusina stanowią tradycyjne pijaństwo, podejrzliwość i nieufność... do inteligencji nie wyłączając urzędniczej i duchownej”.

„Новая зямля“ гэта сялянскі эпас. На прыкладзе адной сям'і пісьменнік паказаў побыт беларусаў як нацыі, іх характары, звычаі, традыцыі, працу, адпачынак, паказаў свет рэчаісны і свет мараў.

Паасобныя раздзелы „Новай зямлі“ маюць характар закончаных канструкцый. Можна іх лічыць за закончаныя вершаваныя навелы. Чытаючы паэму, можа здавацца, што некаторыя з раздзелаў гэта эпізоды ці дыгрэсіі, толькі свабодна звязаныя з цэласцю твора, і што паэма магла б абыйсціся без іх, нічога не трацячы з сваёй архітэктанічнай стойкасці. Аднак такое суджэнне — памылковае. Усе трыццаць раздзелаў у „Новай зямлі“ поўнасцю матываваныя і неабходныя. Кожны з іх ілюструе асобную галіну сялянскага жыцця або прыгоды герояў, пры гэтым прадаўжаюць галоўны матыў паэмы — ідэю здабыцця ўласнай зямлі.

Ва ўсёй паэме заўважаецца імкненне аўтара да таго, каб літаратурныя рэальнасці былі максімальна падобныя да рэальнасцей жыццёвых. Дзякуючы гэтаму суб'ектывізм тут амаль поўнасцю атоесамліваецца з аб'ектывізмам. Амаль усе і ўсё, што паяўляецца ў паэме, паказаны дакладна і дэталёва. Чытаючы „Новую зямлю“, здаецца нам, што ўсе прадметы, з'явы і чалавечыя постаці як бы чакаюць сваёй чаргі з той мэтай, каб выйсці на сцэну і паказаць поўнасцю або сваю прыгажосць, або сваю брыдоту. Пісьменнік вельмі часта пры дапамозе сціплых мастацкіх сродкаў прадстаўляе складаныя прыродныя станы або псіхічныя настроі. Часта выкарыстоўвае прыём рэтраспекцыі з той мэтай, каб вярнуцца да з'яў мінулага, або пры дапамозе мінулага паказаць сучаснае. Колас захапляецца дэталёвым апісаннем і гэтым таксама захоўвае вернасць эпасу, у якім, як піша С. Скварчынская,

„... głównym bohaterem jest wszystkość”.




# У ЯКІ БОК ГРОМ?

„Больш цаніць сваё!“ — грыміць В. Станулевіч з Ольштына, павучаючы М. Панфілюка. Як той меў адвагу паставіць творы неадукаванага селяніна вышэй паэзіі высокаадукаваных „белавежцаў“! Гэта раз. Нетактоўнасць, вядома. Два, галоўнае: чаму Панфілюк, ганьбячы неразбярыху цяперашніх „белавежцаў“, не спасылаецца на сваіх класікаў, а на нейкіх чужакоў, якія (да таго) выйшлі з палацаў, удзельнічалі ў палацовых розыгрышах, інакш, выводзіліся з арыстакратыі, а не з рабочага люду. Як так можна не ведаць сваіх класікаў, якія так цудоўна апісваюць свой народ! — абураецца Станулевіч і кідаецца ва ўспаміны: як у маладосці вечарамі ў інтэрнаце выхаваўца чытаў яму і яго сябрам „Сымона-Музыку“, і як некаторыя з іх плакалі — так падзейнічалі на іх вобразы чалавечай долі, прадстаўленыя нашым класікам. Тут жа зазначыў, што не спаткаў ён гэтага (жалю) пры чытанні твораў класікаў, адзначаных Панфілюком. Ці слёз не хапіла, ці тыя класікі няўмела тварылі — Станулевіч прамаўчаў. Ну, што ж, даў, як то кажуць, файфэру Панфілюку, аж мне сорамна стала. Прызнаюся, на працягу свайго доўгага жыцця не давялося мне прачытаць Коласавага „Сымона-Музыку“, толькі хлябнуў у „Зорцы“ „Варону-хвальбоку“ (урывак з паэмы). Хлябнуўшы, падумаў: Эх, Колас, Колас! Сустрэў ты ў свой час адну гэткую „варону“ і так хвацка ўвекавечыў вырадка. Сучасная „Варона-хвальбока“ (на гора і смех людскі) дастукалася ў аховы прыроды законных правоў, у птушыным свеце пануючай стала, жыве ў выгодзе і шыку, плодзіцца ў раскошы. Ох, Якубе, Якубе! Наш народны настаўнік! Калі ты тварыў сваю класіку, я, Міхасёк, сын нашага народа, быў у гадах твайго Сымонкі, і, як ён, жыў у горы і бядзе. Усё роўна, бы ты пісаў з мяне. А я толькі на схіле сваіх год даведаўся аб тваёй паэзіі. І то добра. Вельмі добра, што „Зорка“ надрукавала гэты верш. Добра, што я, (здзецінелы?) старэча, заўсёды чытаю „Зорку“ замест асабіста-філасофскіх выдаваў А. Баршчэўскага. Падумаў я, ой як дарэчы было б надрукаваць гэты верш аб вароне-хвальбоцы ў самым цэнтры літаратурнай старонкі, пасярод кашмару нашых „белавежцаў“: можа ім, перавучаным, прыпомніў бы ён нешта забытае, далёкае, калі выхаваўца ў інтэрнаце чытаў ім аб чалавечай долі. Мо, гледзячы на вобраз класіка, убачылі б урэшце, што ён ззяе ясным сонейкам вакол іхняга туманнага чаду. Мо ў Коласаўскай „Вароне-хвальбоцы“ ўбачыў бы не адзін і сваю персону. Так я думаў, пазнаёміўшыся ў „Зорцы“ з творамі Якуба Коласа.

І думаю, што закід Станулевіча — больш цаніць сваё — больш да твару тым „белавежцам“, якія пагардліва адарваліся ад народу і закансерваваліся ў сваім суб'ектывізме.

Дакараць М. Панфілюка ў недаацэнцы свайго — бязглуздзіца. Хто чытае дакладна „Ніву“, пацвердзіць гэта. А што ён, прыхільнік класікі, абапёрся ў сваіх вывадах на чужых аўтарытэтах, нічога кепскага няма.

Не так даўно В. Петручук пісаў, што беларускі народ усёцэла інтэрнацыянальны. Я аж падскочыў з радасці. Таму, што я аб сваім народзе заўсёды так думаў. З дабаўкай: наш брат-беларус ад прыроды інтэрнацыяналіст, з глыбіні вякоў, калі яшчэ і гэты тэрмін быў няведамы. Вядома, здараецца і ў нас задрыпаная авечка, але ніколі яна не адыгрывае сур'ёзнай ролі. Затое ў нас маса палымяных інтэрнацыяналістаў. І адзін з самых стойкіх — М. Панфілюк. Стоячы на такім грунце, нічога дзіўнага, што яму аднолькава блізкі свой Якуб Колас, як і М. Горкі, М. Астроўскі, Гайдар, Гоголь, Пушкін. „Класавы“ закід Станулевіча, што Панфілюк абапіраецца на „арыстакрата“ Пушкіна, пахне цвіллю. Ніхто так не ненавідзеў Пушкіна, як той самы арыстакратычны свет. Ён, урэшце, яго і знішчыў. Зрэшты, вершы Пушкіна найлепш бароняць паэта ад падобных нападаў і кляўз, ставячы яго ў рады высакароднай інтэрнацыянальнай чалавечнасці. Аўтарытэт Пушкіна ў літаратуры, як

(Працяг на стар. 7)

## Этнаграфічнае акенца



*У красавіку і маі бягучага года ў Музеі сельскай гаспадаркі імя К. Клюка ў Цеханоўцы экспануецца цікавая выстаўка* **„Унутранае здабленне хатаў на Падляшшы“.** *Сярод многіх экспанатаў былі там таксама гэтыя ручнікі, уласнаручна вытканыя, вышытыя і абмеражкаваныя Аннай Грыгарук з Плюцічаў, што на Бельшчыне.*

*Фота М. Гайдука.*

# ЖАНЧЫНЫ — ІНІЦЫЯТАРЫ ПРАГРЭСУ

Актыўна працуюць жаночыя арганізацыі ў Бельскай гміне. У сваёй штодзённай, шматбаковай працы многа ўвагі прысвячаюць справам сістэматычнага паляпшэння ўмоў жыцця і выхавання вясковых дзяцей.

Адной з форм гаспадарча-грамадскай дзейнасці жанчын з'яўляецца ўдзел у конкурсах, арганізаваных вясковай спулдзельчасцю. Конкурс „Больш малака высокай якасці!“ спрыяў развіццю малочнага быдла і павышэння якасці малачарскіх вырабаў. Былі пабудаваны, мадэрнізаваны, а таксама пабелены вапнай многія аборы. Вялікай папулярнасцю карыстаюцца конкурсы: „Больш агародніны, фруктаў і кветак“, „Сучасная адхавальня куранят“ і іншыя.

Сёлета школу грамадска-палітычнага абучэння закончыла 163 асобы (у мінулым годзе ўдзельнічала ў занятках 140 кабет). Жанчыны актыўна ўдзельнічаюць у грамадскім жыцці вёскі і гміны. Функцыі радных у гміне выконвае 12 прадстаўніц прыгожага полу (24% агульнай колькасці радных). У агульным ліку членаў гміннай партыйнай арганізацыі жанчыны займаюць 18,9%.

Гаспадыні бачаць вялікія шансы для сваей гаспадаркі ў спецыялізацыі прадукцыі. А каб атрымаць добрыя вынікі, трэба шмат вучыцца. Вучыцца рацыянальна карміць сям'ю, вырошчваць гародніну і збожжа, гадаваць і даглядаць жывёлу. Каб умець карыстацца ў сваёй гаспадарцы ўсім новым, што толькі паяўляецца і што аблягчае працу ды ўпрыгожвае жыццё.

Навучыцца ўсяму гэтаму найлепш сабраўшыся гуртам. У групе можна арганізаваць розныя патрэбныя курсы, пачынаючы ад гатавання і пячэння, кройкі і шыцця, а канчаючы на агульнаасветным, грамадска-палітычным і сельскагаспадарчым навучанні. Дагэтуль званне кваліфікаванага гаспадара атрымалі 103 жанчыны.

У Бельскай гміне дзейнічае звыш 50 КГВ, а ў іх паўтары тысячы членаў. Найлепш працуюць гурткі ў Райску, Пасынках, Зубаве, Саках, Шасталах, Парцаве, Лубіне Касцельным, Храбалах, Кнаразах і іншых вёсках. Іх дзейнасць канцэнтруецца ў клубах кніжкі і прэсы, клубах селяніна, святліцах і цэнтрах „Сучасная гаспадыня“.

Найлепшымі актывістамі ў гміне з'яўляюцца: Зофія Снятэцкая з Зубава (вядзе яна гаспадарку на высокім узроўні і выконвае функцыю сакратара мясцовай ПОП), Ніна Прызовіч з Парцава (яна перадавы земляроб і дзеяч гміннай рады жанчын), Тарэса Жэпнеўская з Жэпнева (радная ГРН, старшыня Камісіі асветы і культуры, кіраўнічка цэнтра „Сучасная гаспадыня“ ў Храбалах).

**Я. Целушэцкі**

вёсцы трактуюцца як прыроджаныя калецтвы, з якімі раней ніхто не прабаваў змагацца. (Напрыклад, касавокасць, заіканне, скрыўленні паставы і многія іншыя.) Сёння большасці так званых прыроджаных хвароб можна пазбыцца, калі ў дзіцячым узросце інтэнсіўна іх лячыць. А гэтым якраз займаецца Ваяводская амбулаторыя школьнай медыцыны з яе чатырма кабінетамі, а таксама спецыялістычныя амбулаторыі службы здароўя. Большасць дзяцей трапляе сюды па скіраванню школьнай службы здароўя. Але калі маці мае нейкія сумненні, можа проста прыехаць з дачкой ці сынам у Беласток і звярнуцца ў Ваяводскую амбулаторыю школьнай медыцыны, якая знаходзіцца на вул. Навоткі. Як запэўніў кіраўнік амбулаторыі, ніводна маці не ад'едзе без парады.

Ёсць у амбулаторыі і парадня, якая служыць здаровым дзецям. Гэта парадня лекарскага кантролю фізічнага выхавання. Іменна сюды павінны прыязджаць на праверку хлопцы і дзяўчаты, якія хочуць займацца спортам значна шырэй, чым вымагае ад іх школьная праграма. Не аднойчы здаралася, што прыязджаюць спартсмены з гміннай школы ў Беласток на спаборніцтвы, і тут аказваецца, што дапусціць іх да ўдзелу ў спаборніцтвах арганізатары не могуць — патрэбна даведка ад лекара, што дзіця здаровае і можа займацца спортам. Гэта вельмі важная, сур'ёзная справа, а не непатрэбная бюракратыя, як можа каму-небудзь здавалася. Арганізатары спаборніцтваў хочуць мець упэўненасць, што кожнае дзіця можа вытрымаць узятую на сябе фізічную нагрузку. А іменна гэта можна праверыць у парадні лекарскага кантролю фізічнага выхавання. На спецыяльных прыборах можна сцвердзіць, з якой дапушчальнай хуткасцю можа ехаць веласіпедыст ці бегчы лёгкаатлет, каб праца яго сэрца заставалася ў пэўных нормах, можна акрэсліць, колькі паветра змяшчаецца ў лёгкіх будучага плаўца. Адначасова лекар гэтай парадні, выдаючы дазвол займацца спортам, бярэ пад увагу агульны стан здароўя дзіцяці, каб мець пэўнасць, што арганізм зможа прыстасавацца да большых нагрузак.

Асабліва шмат увагі амбулаторыя ўдзяляе супрацоўніцтву з рознымі ўстановамі і прадпрыемствамі. Разам з Таварыствам сяброў дзяцей амбулаторыя арганізуе амаль усе існуючыя цяпер лячэбныя лагеры. Некаторыя прадпрыемствы, як Ваяводскае праўленне сельскагаспадарчых гурткоў ці тэкстыльны камбінат „Фасты“, фінансуюць такія лячэбныя лагеры для дзяцей сваіх працаўнікоў. А ў Міжнародны год дзіцяці, як спадзяецца Ваяводская амбулаторыя школьнай медыцыны, да гэтай справы далучацца і іншыя прадпрыемствы.

**Яніна Чэрнякевіч**

## ФАЛЬКЛОР

### ВЯСЕЛЬНАЯ




*Ой, гула, пшчолка гула*
*кала новага двара.*
*Ой, то ні пшчолка гула,*
*то дзевэнька плакала,*
*ад ванцу прыехаўшы,*
*матулі да ног упаўшы:*
*— Матулю мая родна,*
*разважы белы ручкі,*
*разважы белы ручкі —*
*разменяй парсцёначкі.*
*— Ой, дзіця мае роднэ,*
*я рада таляр даць,*
*я рада таляр даці —*
*белы ручкі развезаці,*
*коб белы ручкі развезаці,*
*срэбны парсцёнкі разменяць.*

Ад Янюк Марыі, 1908 года нараджэння, мястэчка Нараўка, запісаў 24 студзеня 1979 года Мікалай Гайдук, мелодыю расшыфравала Людміла Панько.

# Вечар мастацтва

Неяк мы патрапілі на вечар у адно таварыства. Адразу ж усе жанчыны накінуліся на паэта Кашона.

— Нас цікавіць мастацтва. У нас вялікія культурныя запатрабаванні, якія, на жаль, не можам задаволіць.

— І вось трапілася шчаслівая магчымасць паразмаўляць з сапраўдным паэтам, — сказала гаспадыня. — Божа, колькі сумненняў мы маем у галіне, блізкай пану.

Паэт Кашон зрабіў крок да дзвярэй, але яму тыцнулі ў рукі талерку з халоднай закускай, кавалак булкі, нож, відэлец і чарку чыстай.

Хвіліна ўвагі зрабіла ўплыў на далейшы лёс вечара. У часе размовы на тэмы мастацтва паэту Кашону задавалі ся пытанні, якія хвалявалі прысутных:

— Ці праўда, што Севярын Краеўскі любіць гогаль-моголь?

— Ці праўда, што Станіслаў Лем піша звычайнай ручкай, а не друкуе на машынцы?

— Ці праўда, што Ірэна Сантар зараз адпачывае ў Аўстраліі?

— Ці праўда, што Ежы Паломскі мае дачу над Затокай?

— Як завуць новага мужа Бэаты Тышкевіч?

— Каго больш любіць Лазука: бландзінак ці брунетак?

— Колькі гадоў Барбары Брыльскай?

— Колькі зарабляе Кавалеровіч?

Ні на адно з гэтых пытанняў паэт Кашон не даў вычарпальнага адказу, у лепшым выпадку мармытаў штосьці няпэўнае і расплывістае.

У выніку — кампраметацыя. Кампанія справядліва ігнаравала гэтага Кашона.

На ўсякі выпадак я стаў трымацца збоку. Нібы прыйшоў асобна.

Але і так усе пазіралі на мяне коса.

**Меган**



**З „Весніка Задрыпоніі“**

### РАЦПРАПАНОВА

Цікавую рацпрапанову ўкаранілі на фабрыцы гузікаў у Задрыпанцы. Тут замест чатырох дзірак у гузіку сталі рабіць адну. Гэта дазволіла значна скараціць час на вытворчасць аднаго гузіка.

Зараз канструктарскае бюро працуе над тым, як прышываць новую прадукцыю.

### ПЫТАННЕ ПРАФ. КАЗЯЎКІ

Шырокія гарызонты — гэта абмежаванасць зроку ці выразнасць бачання?



**Задрыппісар хваліцца: — Дайце мне фразу, і я зраблю з яе эпапею.**






— *Нам пашанцавала, прэ*г*а прыйшла...*

**ТРЫМАЙЦЕ ВУХА!**

## Лабавая атака

*А на двары лье, як з вядра,*
*Алена ж да Аверкі:*
*— Схадзі, мой любы, ў магазін,*
*Купі мне там люстэрка.*

*Ды муж не вельмі і спяшыў*
*І распачаў дэбаты:*
*— Такой пагодай й шчанюка*
*Не выганяюць з хаты.*

*Раптам жонка перайшла*
*На яго ў атаку:*
*Я ж пасылаю ў магазін*
*Цябе, а не сабаку!..*

**Я. Бандарэнка**

MADE IN ZADRYPANKA

### НІЧОГА МУДРАГА

— Хадзем, Пятро, на рыбалку!

— Дык я ж не ўмею лавіць рыбу.

— А што там умець? Налівай ды выпівай.

### УДАКЛАДНІЎ

— Скажыце, калі ласка, у які час адбываліся падзеі, пра якія вы павінны расказаць, адказваючы на першае пытанне білета? — запытаў экзаменатар у студэнта Лайдакевіча.

— Даўно, — адказаў той.

— А дакладней?

— Вельмі даўно.

— А яшчэ больш дакладна.

— Яшчэ даўней.

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Служачы прыйшоў на работу са спазненнем, увесь перабінтаваны. Начальнік спытаў яго, чаму ён спазніўся.

— Я ўпаў з пятага паверха.

— І што ж, вы падалі цэлую гадзіну?

✻

Дзве дамы гутараць аб замужжы.

— Мне здаецца, — гаворыць адна, — што замужжа нагадвае міраж у пустыні — з палацамі, пальмамі і вярблюдамі. Потым знікае палац, за ім — пальмы і, нарэшце, застаешся з адным вярблюдам.

✻

— Сёння я хадзіў да доктара з прычыны паслаблення памяці.

— І што ён сказаў?

— Папрасіў заплаціць наперад.

### ЗНАЙШОЎ ВЫЙСЦЕ

Трое сяброў зайшлі ў рэстаран. Два з іх убачылі знаёмых і загаварыліся. У гэты час трэці пазакрэсліваў у меню самыя дарагія блюды.

— Мне давядзецца частаваць, — апраўдваўся ён перад афіцыянтам, які здзіўлена глядзеў на яго.

### ШЧЫРАЕ ПРЫЗНАННЕ

— Чаму вы заснулі на другім дзеянні нашага спектакля?

— Разумееце, я збіраўся зрабіць гэта яшчэ ў першым дзеянні, аднак перашкаджалі шумавыя эфекты.



**ГУМАР З БАРАДОЙ**

Двое гультаёў спалі ў капе сена. Праходзіў міма чалавек і забраў іхнія вілы.

Адзін гультай і кажа другому:

— Дагані і адбяры.

— Пачакай: калі ён прыйдзе забіраць сена, мы яго схопім разам.



### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

*Па просьбе Алі Панькоўскай з Масева II змяшчаем песню*

## BAJU, BAJU

**muzyka: Hank Williams Sr.,**
**słowa: Bogdan Olewicz**
**śpewa Anna Jantar**

Było to temu z rok, było w maju
Pachniał bez wzdłuż i wszerz w całym kraju
Pewien pan, miły pan z Amsterdamu,
Powiedział wprost „Ty moją bądź
Droga Aniu“

„Skoro świt ja i ty wyjeżdżajmy
Mam swój dom tam, gdzie są tulipany.
Będziesz tam — mówił pan — pierwszą damą
Dlatego dziś mą musisz być moja Anno“.

Baju, baj, baju baj, proszę pana
Ja nie jestem taka pierwsza lepsza Anna,
Znam ten styl, znam ten hit już na pamięć,
Czego pan chce, poskarżę się mojej mamie.

Lecz ten pan w oczach miał łzy prawdziwe,
Ten łez sznur leciał mu w kufel z piwem,
Pachniał bez wzdłuż i wszerz w całym kraju,
A on tak wciąż „moją bądź droga Aniu“.

Baju, baj, baju baj...

### НЕ ЗГУБІЎ

Хлопчык зайшоў у магазін і падае прадаўцу бідончык:

— Мама прасіла, каб вы адпусцілі поўную пасудзіну малака.

— Які разумны хлопчык, ужо памагае маці, — хваліць прадавец. — Вось табе малако. Мама, відаць, дала табе і грошы на малако?

— Дала. Я паклаў іх на дно бідончыка, каб не згубіць.




### УКРАЛІ...

Аднаму маладому турку з вілайета Айдын вельмі спадабалася дзяўчына, і ён вырашыў ажаніцца з ёю. Ды, відаць, сама нявеста не выказала пэўную згоду, а маці не была катэгарычна супраць. Тады жаніх падгаварыў двух сваіх братоў дапамагчы ўкрасці яму нявесту. Здзейсніць гэты рызыкоўны намер удалося з вялікімі перашкодамі. І дарма. Бо калі маладыя туркі вывезлі далёка ад дому сваю ахвяру і развязалі, дык выявілася, што ўкралі яны не нявесту, а яе маці.

### ПАЖАРТАВАЛІ...

Два англічаніны, якія жывуць у невялікім галандскім горадку, вырашылі ад суму „пажартаваць“: імітаваць выкраданне дзіцяці з патрабаваннем выкупу. „Дзівакам“ спадарожнічала спачатку ўдача. Яны наткнуліся на пятнаццацігадовага ёлупня, які згадзіўся быць „выкрадзеным“ і сам залез у багажнік аўтамабіля.

Затым англічане вырашылі ўнесці карэктывы ў сюжэт і прапанавалі аднаму галандцу, вадзіцелю грузавіка, купіць іх „ахвяру“. Той спачатку збянтэжыўся, а потым паведаміў у бліжэйшы паліцэйскі ўчастак аб незвычайнай прапанове. „Выкрадальнікаў“ знайшлі дома ля экрана тэлевізара. Яны спакойна растлумачылі паліцэйскім, што хацелі пазабаўляцца самі і павесяліць іншых. Аднак галандскія ўлады не зразумелі англійскага гумару, адабралі ў „жартаўнікоў“ пашпарты і завялі крымінальную справу.



**Калі паўзеш, як чарвяк, дык не злуйся, як наступяць на цябе.**